*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 15(71) ◈ 15 красавіка 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

**Прапановы пражскага вучонага. Стар. 2.**

**«Полацак»— часопіс далёкі і блізкі. Стар. 4.**

**Забойства ў зачыненым пакоі. Стар. 7.**

## ПОСТУП ТЫДНЯ

**ДЭЛЕГАЦЫЯ БЕЛАРУСІ НА ЧАЛЕ СА СТАРШЫНЕЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА С. ШУШКЕВІЧАМ З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ НАВЕДАЛА ФРАНЦЫЮ. ПАДПІСАНЫ ШЭРАГ ДАКУМЕНТАЎ АБ УЗАЕМАДЗЕЯННІ ПАМІЖ ДЗВЮМА КРАІНАМІ Ў ЭКАНОМІЦЫ, КУЛЬТУРЫ, ГАРАНТАВАННІ ЯДЗЕРНАЙ БЯСПЕКІ. БЕЛАРУСЬ ПЕРШАЙ З ДЗЯРЖАЎ СНД ДАЛУЧЫЛАСЯ ДА ПАРЫЖСКАЙ ХАРТЫІ ДЛЯ НОВАЙ ЕЎРОПЫ,** раней яна таксама падпісала хельсінскі Заключны акт Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе.

**РЭЗКА КРЫТЫКАВАЛІ ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ КІРАЎНІКА ПАРЛАМЕНТА СТАНІСЛАВА ШУШКЕВІЧА ЗА НЕДАХОПЫ Ў РАБОЦЕ І БОЛЕЙ УСЯГО ЗА АЎТАРЫТАРЫЗМ, НЕЖАДАННЕ ЛІЧЫЦЦА З МЕРКАВАННЯМІ ІНШЫХ ЛЮДЗЕЙ. А СТАРШЫНЯ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ПА ЗАКАНАДАЎСТВУ ДЗМІТРЫЙ БУЛАХАЎ У ЗНАК ПРАТЭСТУ СУПРАЦЬ ТАКІХ МЕТАДАЎ КІРАЎНІЦТВА ЗАЯВІЎ АБ АДСТАЎЦЫ СА СВАЕЙ ПАСАДЫ.**

**ХРЫСЦІЯНСКА-ДЭМАКРАТЫЧНЫ** саюз Беларусі сумесна з іншымі дэмакратычнымі рухамі і арганізацыямі рэспублікі пачаў фарміраванне Часовага пераходнага ўрада Беларусі. Гэта выклікана тым, што, на думку кіраўніцтва саюза, Вярхоўны Савет і ўрад рэспублікі не выражаюць волі і інтарэсаў усяго насельніцтва.

***ПРАЦЯГВАЛАСЯ АБМЕРКАВАННЕ НОВЫХ ЗАКОНАЎ У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ — АБ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ ЖЫЛЛЯ, АБ ВЕТЭРАНАХ. ПРЫ ІХ РАЗГЛЯДЗЕ ДЭПУТАТЫ НЕ ПРЫЙШЛІ ДА ЗГОДЫ, ЗАКОНАПРАЕКТЫ АДПРАЎЛЕНЫ НА ДАПРАЦОЎКУ. ПРЫНЯТЫ Ў ПЕРШЫМ ЧЫТАННІ ТОЛЬКІ ПРАЕКТ ЗАКОНА АБ ДЗЯРЖАЎНАЙ СЛУЖБЕ.***

***ІНІЦЫЯТЫЎНАЯ ГРУПА ПА ЗБОРУ ПОДПІСАЎ ЗА ПРАВЯДЗЕННЕ РЭФЕРЭНДУМУ АБ ДАТЭРМІНОВЫХ ПАРЛАМЕНЦКІХ ВЫБАРАХ У БЕЛАРУСІ ВЫКАНАЛА ЎСЕ ПАТРАБАВАННІ ЗАКОНУ І САБРАЛА ПАТРЭБНУЮ КОЛЬКАСЦЬ ПОДПІСАЎ. НА ТЭРЫТОРЫІ БЫЛОГА САВЕЦКАГА САЮЗА ГЭТА ПЕРШЫ ВЫПАДАК, КАЛІ РЭФЕРЭНДУМ ПРАВОДЗІЦЦА ПА ІНІЦЫЯТЫВЕ ЗНІЗУ, А НЕ ПА ПРАПАНОВЕ ЎЛАД.***



У Менск прыехалі польская мастачка Славаміра Харанжычэўска і будучы архітэктар Дэніс Дальке з Германіі. Даведаўшыся аб намеры пабудаваць вёску для дзяцей-сірот у Беларусі, абедзьве выказалі жаданне прыняць у гэтым актыўны ўдзел. Яны цяпер працуюць над праектамі вясковых дамоў разам са школьнікамі.

НА ЗДЫМКУ: будучы архітэктар з Германіі Дэніс Дальке і польская мастачка Славаміра Харанжычэўска з пяцікласнікамі мастацкага ліцэя г. Менска Валянцінам Сляшынскім і Кацяй Міцічкінай.

Фота Юрыя ПАЎЛАВА. (БелТА).

# НАШ ДАРАДЧЫК — РАЙНІС

*Споўнілася 70 гадоў з часу аб'яднання беларусаў — карэнных жыхароў Латвіі — дзеля працы ў імя Адраджэння. Калі на Беларусі ўтварэнне культурна-асветнага таварыства «Бацькаўшчына» ў многім залежала ад высілкаў такога дзеяча БНР, як К. Езавітаў, то ўся далейшая дзейнасць беларусаў у Латвіі праходзіла пад заступніцтвам незабыўнага Яніса Райніса. І сёння, калі разгараюцца нацыянальныя канфлікты і ідзе барацьба за сапраўдны, а не папяровы суверэнітэт усіх рэспублік былога СССР, палымянае публіцыстычнае слова Райніса набывае новае гучанне, можа стаць надзейным дарадцам парламентарыяў, кіраўнікоў розных партый, нацыянальных суполак.*

*Сёння вельмі важнымі могуць быць і геапалітычныя разважанні Я. Райніса, з якімі, як ні дзіўна, пераклікаюцца сучасныя прапазіцыі БНФ наконт не толькі ўваходу ў Еўропу, але і выхаду да мора.*

*Я. Райніс некалькі разоў выступаў у сейме ў абарону нацыянальнай меншасці ў Латвіі. Сёння прапануецца яго прамова 27 чэрвеня 1922 года.*

*У 1926 годзе Я. Райніс быў запрошаны на акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу. Мінула чатыры гады. Цяпер ён выступае ў Менску. Новая прамова дае нам магчымасць з яшчэ аднаго пункту прасачыць за ходам беларускага адраджэння ў Латвіі і пашкадаваць, што для 120 тысяч нашых сучасных суайчыннікаў у суседняй дзяржаве не маюць ні такога арганізатара, як К. Езавітаў, ні такога абаронцы, як Я. Райніс. Але затое аналіз праблемы, парады вялікага латышскага друга могуць спатрэбіцца ўжо заўтра: сётага вымушаюць надзённыя задачы нашага жыцця.*

Далучаюся да просьбы перакладчыкаў райнісаўскай прамовы на сейме — Мірдзы Абалы і Ніны Янсанэ — ганарар за публікацыю перадаць у фонд выдання «Нашага слова».

*Сяргей ПАНІЗЬНІК.*

*Ян РАЙНІС*

## ПРАМОВА НА СЕЙМЕ

Панове! Спадар Кемп прапануе ліквідаваць Беларускі аддзел. Спадар Кемп матывуе сваю прапанову тым, што такі аддзел зусім не патрэбны; віну, што аддзел быў заснаваны, ён узваліў на міністра асветы. Тут мне напачатку трэба сказаць, што віна не міністра асветы, а ўсю віну павінен узяць на сябе асабіста я. Беларускія прадстаўнікі звярталіся да мяне, каб я дапамог ім у іх культурным адраджэнні, што я і вырашыў зрабіць, гатовы абараняць іх жыццядзейнасць. Пра гэта тут гаварыла спадарыня, якая паспрабавала высветліць сутнасць спраў. Я, узяўшыся абараняць беларусаў, прапанаваў уключыць у бюджэт і Беларускі аддзел. Трэба было стварыць гэты аддзел так, каб ён значыўся як культурная арганізацыя. Гэтай культурнай арганізацыі трэба было займацца заснаваннем школ, забеспячэннем іх рознымі матэрыяламі, у тым ліку кнігамі, і наогул весці культур-

*(Працяг на с. 3).*

ВІНШАВАННЕ З АЎСТРАЛІІ

Кіраўніцтва Беларускай Цэнтральнай Рады ў Аўстраліі даслала ў рэдакцыю газеты «Наша слова» віншаванне з нагоды 74 гадавіны абвяшчэння Незалежнасці Беларусі Актам 25 сакавіка 1918 г.

Аўтары тэкста падкрэсліваюць, што згаданы акт даў надзею беларускаму народу на свабоду і светлую будучыню. Аднак у выніку акупацыйнай палітыкі Масквы Беларусі не было наканавана стаць вольнай і незалежнай. Пад жорсткім бальшавіцкім тэрорам старанна вынішчалася ўсё нацыянальнае, беларускае, гінулі мільёны нашых суродзічаў. Нягледзячы на гэта беларускі народ няспынна змагаўся за лепшую долю. Вынікам гэтай барацьбы сталі апошнія падзеі на Бацькаўшчыне: 25 жніўня 1991 г. беларускі парламент канстытуцыйна замацаваў суверэнітэт рэспублікі.

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

Ян РАЙНІС

# ПРАМОВА НА СЕЙМЕ

(Заканчэнне. Пачатак на с. 1).

ную работу. Трэба было звяртацца да міністра ўнутраных спраў з просьбай не рабіць перашкод культурнаму руху гэтай беларускай арганізацыі. І ўсё ж на шляху гэтага нацыянальнага адраджэння былі розныя ганенні. Праследаваліся кіраўнікі беларускага руху, іх арыштоўвалі, але, урэшце, у міністэрстве ўнутраных спраў ішлі насустрач, вызваляючы ўсіх з-пад арышту.

Так беларусы атрымалі магчымасць разгарнуць у Латвіі свой рух і задаволіць свае культурныя патрэбы і памкненні. А цяпер нам спадар Кемп спрабуе давесці, што ніякіх беларусаў увогуле ў нас няма. Праўда, ён усё ж удакладняе свае высновы і гаворыць, што ў Латвіі няма беларусаў. А крыху пазней дадае, што наша статыстыка, паводле дадзеных Скуеніека, усё ж успамінае гэтых беларусаў. Але пан Кемп думае, што і гэтыя беларусы выдуманы панам Скуеніекам... Тое, што пан Скуеніек выдае ў сваіх падрахунках — праўдзівая інфармацыя, падлікам даказаная. Але пан Кемп гаворыць другое. Ён кажа: так, там усё ж ёсць такая маса, з якой усё што хочаш можна зрабіць. Я думаю, што ў гэтай справе пан Кемп дужа кампетэнтны. Выяўляецца, што ён зрабіў даволі многа, але вынес даволі супярэчлівыя высновы. Другія прамоўцы, расійскай нацыянальнасці, былі таксама супраць тых беларусаў, але яны ўсё ж прызналі, што такія існуюць; іх не многа, але не ў Латгаліі, — і гэтую думку выказалі таксама ў дзвюх рэпліках. Якія фактычныя справы? Фактычна беларускі народ існуе, ён існуе ад старажытнейшых часоў. У гісторыі беларусы вядомы як «крывічы», пра гэта сведчыць хроніка. Гэтыя беларусы хочуць рускае найменне сабе ўзурпіраваць, бо хочуць, каб беларусы называліся рускімі, а рускія хай завуцца русакамі. Гэта пра тое, што яны і ёсць тыя самыя даўнія «крывічы». У гэтых крывічоў, пазнейшых беларусаў, вялікая гісторыя... Але ж гісторыю трэба ведаць, як і тое, што ў беларускую гісторыю ўваходзіць таксама і літоўская гісторыя, а папярэднюю літоўскую гісторыю таксама трэба ведаць. Літоўская гісторыя ўсім знаёма, і пану Кемпу таксама, я думаю, добра знаёма, як заснавалася Літоўска-Руская, гэта значыць Літоўска-Беларуская дзяржава.

Вядома тое, што ў гэтай дзяржаве культурным элементам былі беларусы. Таму што яны прынялі хрысціянскую веру, і яна паспрыяла іх далейшаму развіццю. Літоўская дзяржава зрабіла такую памылку, што пайшла па лягчэйшаму шляху і не развівала культуру свайго народа, а пераняла гатовую беларускую культуру. Таксама вядома, што ўсе літоўскія законы і дыпламатычная перапіска вялася на беларускай мове. Нават на той час існуючыя літоўскія статуты напісаны па-беларуску. Гэта была культурная мова ад самага абвяшчэння літоўскай дзяржавы. Ці ёсць у яе свая літаратура, пра гэта пан Кемп больш за ўсё сумняваўся. Літаратурныя дакументы паходзяць з далёкага часу, ажно з XIII стагоддзя. Непасрэдна літаратура, якую завуць белетрыстыкай, у іх таксама развіта і вельмі багатая, але яна вызначаецца як польская літаратура. Тое ж самае і з літоўскімі пісьменнікамі: кожны вялікшы літоўскі пісьменнік лічыцца польскім пісьменнікам. Так адны і другія вялікія пісьменнікі лічацца палякамі. А яны не палякі, а беларусы, і ў іх саміх самабытная літаратура, якая існуе аж да апошняга часу. Нават цяпер, у новым часе, трымаюцца сувязі са старой літаратурай. Наконт існавання гэтай літаратуры пан Кемп больш за ўсё сумняваўся, але трэба сказаць, што з гэтай беларускай літаратуры перакладаў на латгальскую мову сам пан Кемп. Што для нас вось такія беларусы ўяўляюць своеасаблівы інтарэс, паказвае і тое, што гісторыя ў іх з літоўцамі была агульная. Толькі літоўскія палітыкі зрабілі тую вялікую памылку, што накіравалі свае сілы ў бок беларушчыны, якая ад нас стаіць далей, хаця ў беларусаў няма ніякага другога накірунку, як на Балтыйскае мора. Яны па-сваяцку сябруюць з Украінай. Сама ж Украіна, або Маларасія, усё ж адасоблена ад беларусаў: Украіна бліжэй да паўднёвага мора, а беларусы бліжэй да паўночнага мора. Значыць, беларусы пры сваім геаграфічным становішчы бліжэй да літоўскай дзяржавы і Латвіі. Калі мы паглядзім у гісторыю, то ўбачым, што ў нас з беларусамі многа агульнага. Калі мы гаворым пра розныя камбінацыі, якія магчымы для існавання Латвіі, тады ў гэтых камбінацыях трэба рахавацца не толькі з літоўцамі, але і з беларусамі...

Цяпер у нас у Латвіі каля 60 тыс. беларусаў. Трэба сказаць, што беларусы са сваімі 4 % стаяць вышэй за палякаў. Палякаў у нас менш, чым беларусаў, а пан Кемп хоча апошнім забараніць прадстаўніцтва ў жыцці нашай дзяржавы. Ужо цяпер гэты народ у Латвіі з зусім нязначнай дапамогай дасягнуў многага: ужо арганізаваны 52 школы, і ў школах навучанне вядзецца не на расійскай, а на беларускай мове. (Кемп з месца: «На расійскай мове!»). Магчыма, і па-расійску, але беларуская мова ў іх — навучальная. Школьныя дапаможнікі ў іх таксама ёсць. Самой Беларусі цяпер асабліва цяжка, таму што народ зараз раздзелены на 3—4 часткі. Існуе Беларусь, адна частка якой з'яўляецца Расійскай савецкай рэспублікай, пад назвай «Беларуская Савецкая Рэспубліка», але ў гэтай часткі Беларусі зусім мала беларусаў. Большая частка ўваходзіць у Вялікарусь, як, напрыклад, Віцебская і Смаленская губерні, якія абжыты беларусамі, а належаць да Расіі. Трэцюю частку забралі палякі. Вось у такім становішчы для беларусаў склаліся вельмі цяжкія ўмовы, а калі яшчэ і мы гэтыя ўмовы абцяжарваем, тады мы павінны былі б паглядзець, якія інтарэсы нас на гэта гоняць. З боку нашай Латвійскай дзяржавы няма такіх інтарэсаў, каб абцяжарваць іх культурнае жыццё, таму добра тое, што мы дазваляем ім на культурным даляглядзе свабодна развівацца; такім чынам яны будуць адабраны ад другіх народаў, якія на іх прэтэндуюць з мэтай культурнай асіміляцыі — г. зн. рускі і польскі народы. Калі пан Кемп думае, што нашыя беларусы могуць быць аблатышанымі, тады ён дужа памыляецца. Мне думаецца, што яны не будуць аблатышанымі, а хутчэй апалячанымі. Я не ведаю, было б гэта ў інтарэсах пана Кемпа, калі б гэты элемент быў апалячаны. Мне думаецца, што было б у нашых інтарэсах, каб яны не былі апалячанымі, а каб самастойна развіваліся...

Латышоў налічваецца каля 2 мільёнаў, то колькасць беларусаў дасягае 8 мільёнаў. Я не ведаю, ці было б у інтарэсах пана Кемпа выступаць супраць культурнай самастойнасці гэтага народа. Зусім нядаўна быў час, калі ён хацеў бачыць аўтаномную Латгалію, хацеў аддзяліць яе, самастойную Латгалію, ад Латвіі. Значыць, для такой маленькай частачкі, для паўмільёна людзей ён дапускае, што можа быць самастойнае культурнае развіццё, а для 8 мільёнаў — быць не можа. Гэта датычыць таго яго выказвання, дзе ён прызнае, што з масы можна зрабіць усё: тая маса ў гэтым выпадку — беларусы.

Я хацеў бы цяпер падсумаваць усё і сказаць, што беларуская народнасць настолькі працэнтна вялікая ў нашай дзяржаве, што ёй належыць даць не мізэрную долю, а 2,5 мільёны рублёў для іх школ...

Гэта для нас, для нашай знешняй палітыкі можа быць важным. Але тут на першым месцы стаіць не знешняя палітыка, тут на першым месцы знаходзіцца ўнутраная палітыка. У нашых інтарэсах, каб гэтыя масы не былі апалячаны, каб яны заставаліся самабытнымі.

На гэта пан Кемп сказаў, што тады мы павінны прызнаць такую самастойнасць і за цыганамі. Я гэтага не ведаю, але можа пану Кемпу ёсць за што абараняць цыганоў, можа ў яго ёсць асаблівыя інтарэсы іх абараняць. У нашым жа выпадку размова ідзе пра вялікую, больш за 4 % ад усіх жыхароў нашай Латвійскай дзяржавы, нацыянальную меншасць. Гэта не якая-небудзь простая дружба.

У заключэнне я павінен сказаць, што прашу ўтрымаць у бюджэце вызначаны падрахунак, бо гэта ідзе на карысць нашай латвійскай культуры, для інтарэсаў нашай Латвійскай дзяржавы.




НА ЗДЫМКУ: Ян Райніс (другі злева, сядзіць) з беларускімі пісьменнікамі. Менск. 1926 г.

## Прамова Я. РАЙНІСА на адкрыцці Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі

Старшыня: «Слова мае выдатны пясняр Латвіі, вядомы не толькі ў Латвіі, але далёка па-за межамі яе і ў нас, на Беларусі, Ян Райніс».

Ян Райніс (пачынае сваю прамову на латышскай мове, потым пераходзіць на расійскую).

«Вельмі шаноўны сход! Вітаю вас ад імя Латвіі. Буду далей гаварыць па-расійску, хоць гэта не будзе для мяне лёгка, бо я не вельмі добра валодаю расійскай мовай.

Я прыношу прывітанне вам, беларускаму народу, прадстаўнікам беларускай інтэлігенцыі, Інстытуту ад Латвіі, вашай суседкі, сяброўскай Латвіі. Я глыбока ўзрушаны тым значэннем, якое мае сягонняшні дзень і гэты сход. Гэты сход будзе лічыцца вялікім гістарычным здарэннем. Акадэмічная канферэнцыя з'явіцца будаўніком падвалін беларускай культуры, яна ўрэгулюе і розныя пытанні беларускай мовы.

Канферэнцыя будзе, такім чынам, заканадаўцам не толькі ў палітычным ці эканамічным сэнсе, а і ў культурным.

Я хачу сказаць вам некалькі слоў пра становішча беларускага народа ў Латвіі. Беларускі Аддзел адчынены пастановаю Рады Міністраў ад 22 верасня 1921 г. Першым кіраўніком прызначаны дырэктар Люцынскай гімназіі Сяргей Пятровіч Сахараў . Вашых аднапляменнікаў у Латвіі налічваецца каля 70 тысяч. Гэта — каля 4 % усіх жыхароў. З нацменшасцей Латвіі беларусы самая большая: палякаў у нас меней, чым беларусаў. У Латвіі меншасці карыстаюцца культурнаю аўтаноміяй, і нам здаецца, што наша культурная аўтаномія для меншасцей самая ліберальная ў Заходняй Еўропе. Арганізацыя беларускай культурнай аўтаноміі злучана ў Беларускім Аддзеле пры Міністэрстве Асветы. Гэты Аддзел арганізуе школы і другія культурныя ўстановы.

Не адразу беларусы атрымалі гэтую аўтаномію. Адзін час у нас быў такі погляд, які панаваў і ў царскай Расіі, а менавіта, што беларусы не твораць асобнага народа, што іх мова — гэта толькі падмова, гаворка расійскай ці польскай мовы. Трэба было ў нас, у Латвіі , змагацца супраць гэтых поглядаў,дзеля гэтага і не лёгка было дабіцца ўтварэння беларускай культурнай аўтаноміі . Нарэшце беларусам усё ж удалося атрымаць нацаўтаномію, але тут ворагі беларусаў, каб дыскрэдытаваць беларускі нацыянальны рух, утварылі так званы «беларускі працэс» . Беларускія культурныя дзеячы былі абвінавачаны ў дзяржаўнай здрадзе. Аднак на судзе было ўстаноўлена, што ніякага злачынства з іх боку не было, што ўвесь працэс быў выдуманы шляхтай, з ініцыятывы і пад уплывам не латышскіх, а чужаземных колаў . Цяпер адносна прызнання культурнай аўтаноміі беларусаў і беларускага культурнага руху ў Латвіі ніякіх пратэстаў няма. Такім чынам, можна спадзявацца, што беларускі культурны рух пойдзе хуткімі крокамі.

Але ёсць яшчэ перашкоды іншага характару. Культурны ўзровень беларускага народа ў нас, у параўнанні з латышскім народам, невысокі. Мне здаецца, што прычына ў тым, што беларусы ў Латвіі ў сваёй масе — рабочыя і сяляне. Невысокім культурным узроўнем тлумачацца тыя абставіны, што беларусы не маюць у нашым сейме свайго прадстаўніка. Па ліку беларускага насельніцтва ў Латвіі ў нас у сейме мусіла быць ажно тры дэпутаты-беларусы, а між тым няма ніводнага.

Інтарэсы пралетарыяту Латвіі вымагаюць, каб беларускі народ развіваўся як мага барджэй; на гэтае развіццё спадзяецца латышскі пралетарыят і робіць усе залежныя ад яго мерапрыемствы.

Я сам паходжу з Латгаліі, з той яе часткі, дзе жыве многа беларусаў. Я звязаны з беларусамі сяброўствам. Я ўзяў на сябе абавязкі бараніць іх інтарэсы, пакуль у сейме не будзе беларускага прадстаўніка. Я глыбока спачуваў беларусам яшчэ ў тыя часы, калі яны былі прыгнечаны царскім рэжымам, а таму і зразумела, што цяпер я магу таксама глыбока спачуваць культурнаму ўздыму беларускага народа, які далучаецца да сусветнай культуры народаў і прагне ўнесці сваю долю ў агульначалавечую культуру. Мне здаецца, што беларускі народ, які меў ужо высокую культуру ў той час, калі ў нас не было яшчэ ніякай культуры, гэты народ хутка дасягне культуры агульнаеўрапейскай і зойме віднае і пачэснае месца ў сям'і іншых народаў. Вашая будучыня самая слаўная»...

Публікацыя С. ПАНІЗЬНІКА.

# «ПОЛАЦАК»— ЧАСОПІС ДАЛЁКІ І БЛІЗКІ

За многія тысячы кіламетраў ад Бацькаўшчыны, у амерыканскім горадзе Кліўлендзе (штат Агаё), вось ужо другі год штомесячна з друкарскага варштата сыходзіць прывабны па сваім вонкавым выглядзе, цікавы зместам беларускамоўны часопіс пад назвай аднаго з самых старажытных беларускіх гарадоў — «Полацак». Высакародная мэта часопіса так вызначана ў яго першым нумары: «Ашчадна зберагаць, вывучаць і перадаць духоўнае багацце нашых продкаў тым, хто прыйдзе нам на змену». Было выказана запрашэнне ўсім, «хто адчувае сябе беларускім патрыётам, да супрацоўніцтва з часопісам «Полацак». Адразу паведамлю, што выдаюць яго мовай, якой мы карысталіся да рэформы беларускага правапісу 1933 года. Дужа пахвальна, бо ў тым правапісе больш сапраўды беларускага, чым у тым, якога каля шасцідзесяці гадоў прытрымліваюцца ў нас.

Сённяшні дапытлівы чытач ужо добра ведае пра гэтую выдатную з'яву ў публіцыстыцы беларускага замежжа. Якніяк паміж намі існуюць пэўныя сувязі, і таму часопіс кліўлендскіх беларусаў трапляе і ў Рэспубліку Беларусь, што робіць яго блізкім для многіх чытачоў. І трэба думаць, што ў далейшым кола іх павялічыцца, бо ў кожным нумары часопіса дастаткова цікавых, арыгінальных матэрыялаў. А інакш і быць не можа, бо аўтарамі іх з'яўляюцца не толькі прадстаўнікі беларускай эміграцыі, але і тыя, што жывуць і працуюць у нашай рэспубліцы. Як сведчанне агульнабеларускага паяднання ў гэтай справе можа служыць факт, што ганаровымі сябрамі рэдкалегіі выбраны добра вядомыя ў Рэспубліцы Беларусь асобы: пісьменнік Васіль Быкаў, прафесар права Іосіф Юхо, грамадскі дзеяч і вучоны Анатоль Белы. Яшчэ толькі ў першым пакаленні жыве ў эміграцыі выпускніца факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта рэдактар часопіса Святлана Белая.

Як вучонаму-гісторыку мне хацелася б спыніцца толькі на асвятленні часопісам «Полацак» гістарычнай праблематыкі, якой адводзіцца тут досыць важнае месца. Ужо ў першым нумары, які выйшаў у свет у пачатку 1991 года, увагу чытача, несумненна, не мог не прыцягнуць артыкул прафесара Беларускага дзяржаўнага універсітэта Іосіфа Юхо «Полацкае старадаўняе права». Гэты артыкул мог бы ўпрыгожыць старонкі любога часопіса, што выходзіць на тэрыторыі Беларусі, і, думаю, выклікаў бы вялікую зацікаўленасць у шматлікіх чытачоў. Сваім артыкулам Іосіф Юхо, бясспрэчна, у многім дапамог часопісу «Полацак» ужо з першага нумара звярнуць на сябе ўвагу сапраўдных аматараў нацыянальнай гісторыі.

Такой жа мэце служылі і публікацыя Анатоля Белага «Мэдальерны вобраз Скарыны», цікавыя матэрыялы Уладзіміра Содаля пра раней невядомыя старонкі з жыцця аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча.

Пяро ў руках Іосіфа Юхо аказалася надзвычай лёгкім, бо ўжо ў наступным, другім, нумары часопіса «Полацак» чытач атрымаў магчымасць у значнай ступені папоўніць сваю гістарычную памяць, пазнаёміўшыся з публікацыяй Анатоля Белага «Вытокі нацыянальнай свядомасці», дакументамі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, успамінамі Яна Станкевіча «Узыходзіла сонца незалежнае Беларусі. Да абвяшчэння незалежнасці Беларусі 25-га сакавіка 1918 г.» У гэтым жа нумары пачалася публікацыя (працяг у 3—4-м нумарах) і майго артыкула «Беларусізацыя», за што вельмі ўдзячны рэдкалегіі часопіса.

Пры ўсёй разнастайнасці гістарычнай тэматыкі часопіса «Полацак» заўважаецца найбольшая прыхільнасць яго да нашай самай сівой мінуўшчыны і да падзей, якія датычаць утварэння і дзейнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, як найменш распрацаваных ці наўмысна сфальсіфікаваных не адным пакаленнем польскіх, рускіх і беларускіх гісторыкаў. Дзякуючы такому падыходу паступова звужваецца велізарнага памеру «белая пляма» ў нашай гістарычнай памяці. У запаўненне за стагоддзі ўтвораных у ёй прагалаў важкі ўклад зрабілі сваімі цікавымі і змястоўнымі публікацыямі Анатоль Белы («Вытокі нацыянальнай свядомасці», №№ 2, 3), Сяргей Тарасаў («Вялікі пасад у Полацку», № 5; «Полацкае княства ў XI ст.», № 8 і «Адкуль пайшло хрысціянства ў Беларусі», № 10), Іосіф Юхо («Вуніі Вялікага княства Літоўскага», № 6—7), Юры Штыхаў («Полацкія крывічы», № 8), Вадзім Круталевіч («25 сакавіка 1918 г. у гісторыі самавызначэння Беларусі», №№ 3, 4, 5), Леў Мірачыцкі («Крыніца» ў лёсе беларусаў», № 5).

Своеасаблівы спосаб паглыбіцца ў мінулае Бацькаўшчыны выбралі вядомы беларускі гісторык Мікола Ермаловіч і сакратар рэдакцыйнай калегіі часопіса «Полацак», добры знаўца гісторыі свае Бацькаўшчыны Міхась Белямук. Пачалося гэта больш за дваццаць гадоў назад з таго, пра што яшчэ і сёння вядуцца спрэчкі, а іменна: ці правамерна ў зваротах адзін да аднаго ўжываць слова «спадар»? Прыгаданыя аўтары, ліstуючыся паміж сабой, закранаді шмат якія цікавыя пытанні з гісторыі, пра што можна прачытаць у змешчаных Міхасём Белемуком «Лістах да Міколы Ермаловіча» (№№ 4, 5, 6—7, 8). Аднак з усяго таго, што імі ўздымалася ў час перапіскі, на першае месца трэба паставіць праблему ўзнікнення Вялікага княства Літоўскага, якая выкладалася з пазіцый, што пазней замацаваліся ў беларускай гістарычнай навуцы. Прывяду хоць пару вынятак у пацвярджэнне гэтаму з лістоў Міколы Ермаловіча ад 17 ліпеня 1981 і 22 красавіка 1983 гадоў: «...нельга атаясамліваць старажытных літвінаў з сучаснымі літоўцамі. Гэта думка павінна настойліва паўтарацца і пацвярджацца фактамі. З атаясамлівання сучаснае Літвы з старажытнай пачалося заблытванне гісторыі Вялікага княства Літоўскага, якое было тыповай дзяржавай» (№ 6—7, с. 34); «...старажытная Літва — гэта наша гісторыя... гэта гістарычная вобласць Беларусі і гэта растлумачвае, чаму першай сталіцай ВКЛ стаў Навагрудак» (№ 8, с. 35).

Знаёмячыся са зместам лістоў Міколы Ермаловіча, я падумаў, а чаму б такім шляхам не падштурхнуць і яшчэ каго-небудзь з беларускіх гісторыкаў да шчырай размовы?

Шмат каго зацікавяць успаміны аўтара шэрагу палотнаў пра вядомага беларускага акцёра і драматурга Уладзіміра Галубка, мастака Яўгена Ціхановіча (друкуюцца з № 5), у якіх прыгадваюцца самыя страшныя падзеі з часоў сталінскіх рэпрэсій, калі на нашай зямлі чыніў жорсткую расправу з цветам беларускай інтэлігенцыі народны камісар унутраных спраў БССР Берман.

І пажадана, каб такія ўспаміны паглыблялі нашы веды аб суплямeнніках, што ў розныя гады і па розных прычынах апынуліся па-за межамі сваёй радзімы. Думаю, «голад» на такія публікацыі яшчэ будзе вельмі доўга працягвацца ў неабыякавага да гэтай праблемы чытача. Падобнага роду публікацыямі ўдасца яшчэ больш блізкім зрабіць часопіс «Полацак» для беларусаў, што жывуць на сваёй этнічнай тэрыторыі.

Паводле зместу часопіса «Полацак» адчуваецца пераважна яго мастацка-публіцыстычны і навукова-гістарычны накірунак, за што толькі можна дзякаваць рэдакцыйнай калегіі. Але ж цяпер беларусаў вельмі хвалююць і пытанні рынкавай эканомікі, на якой амераканцы «зубы з'елі». Лічу, каб хтосьці з беларускіх эмігрантаў, якія маюць багаты вопыт ладзіць справу ва ўмовах рынкавых адносін, выступіў з падобнай публікацыяй, максімальна надаўшы ёй прыкладны ўхіл, было б вельмі на карысць.

У нас ёсць добрая традыцыя штомесячна рабіць па радыё агляд найбольш цікавых публікацый часопісаў, што выходзяць у рэспубліцы. Варта было б такім аглядам ахапіць і часопіс «Полацак» ды іншыя перыядычныя выданні беларускай эміграцыі, што будзе весці да нашага паяднання і лепшага паразумення. Людзям трэба паведаміць, якія існуюць магчымасці стаць падпісчыкам часопіса «Полацак» ці дзе можна азнаёміцца з яго чарговым нумарам. Калі ж яшчэ адсутнічае такая магчымасць для індывідуальнай падпіскі ці часопіс па розных прычынах не паступае ў продаж у нашыя кіёскі, гэтую праблему неабходна як мага хутчэй вырашыць на дзяржаўным узроўні суверэннай Рэспублікі Беларусь, бо ад гэтага ў многім будуць залежаць адносіны з суплямeннікамі замежжа.

У канцы хочацца падкрэсліць адну вельмі важную дэталь: часопіс «Полацак» друкуецца пры фінансавай дапамозе царквы Жыровіцкай Божай Маці, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, што знаходзіцца ў Кліўлендзе. У сувязі з гэтым падумалася, а няўжо на такі высакародны ўчынак не здольная і нашая, тутэйшая Беларуская Праваслаўная Царква? Няўжо яшчэ да сённяшняга дня яе кіраўнікам невядома, што выданнем пераважна на рускай мове штомесячнага часопіса «Вестник Белорусского Экзархата» яны працягваюць шматвяковую традыцыю Рускай Праваслаўнай Царквы па культурна-моўнай асіміляцыі беларускага народа? Цяпер жа ўжо не тыя часы, і толькі тая канфесія ў Рэспубліцы Беларусь мае права на існаванне, якая імкнецца садзейнічаць, а не перашкаджаць яе нацыянальна-культурнаму Адраджэнню. Прыклад царквы Жыровіцкай Божай Маці, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы горада Кліўленда варты пераймання. Дай Божа, каб толькі яны не зведвалі фінансавых цяжкасцей у фундацыі часопіса «Полацак».

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук.**

*Часопісы*



## *«Роднае слова»*



Трэці нумар часопіса **«Роднае слова»** («**Беларуская мова і літаратура ў школе»**) адкрываецца нататкамі навукоўца Івана Яшкіна «Мова дыялектная — мова родная!»

Прапагандыстам роднага слова варта звярнуць увагу на распрацоўку Галіны Мікалаенкі і Тамары Новікавай «Слухаем, чытаем, гаворым, пішам па-беларуску», у якой аўтары дзеляцца вопытам правядзення курсаў беларускай мовы ў Менскім гарадскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў. Гэтыя матэрыялы вельмі спатрэбяцца тым, хто бярэцца весці моўныя курсы сярод дарослых.

Вершы паэткі Ларысы Геніюш будуць у наступным навучальным годзе гучаць на ўроках роднай літаратуры. Яе адметная творчасць аналізуецца ў нататках «Ты мой боль святы, Беларусь мая...». У часопісе падаецца таксама спіс літаратуры пра Ларысу Геніюш, а на чацвёртай старонцы вокладкі змешчаны верш «Наш сцяг» з першай яе кнігі «Ад родных ніў».

Са сховаў часу прыходзіць у школу і творчасць Максіма Гарэцкага. У распрацоўцы «...А там гарэла ціхае сялянскае святло» настаўнікам прапануецца варыянт арганізацыі працы з вучнямі пры вывучэнні яго твораў «Ціхая плынь» і «На імперыялістычнай вайне».

Побач з аналізам творчасці сталых літаратараў у часопісе ідзе размова пра маладую беларускую прозу — друкуецца праца́ нататкі Алеся Бельскага «Да глыбіняў жыцця».

Часопіс нагадвае энтузіястам нацыянальнага Адраджэння пра тое, што настала пара рыхтавацца да школьнага лета. Як вядома, працэс беларусізацыі патрабуе пераасэнсавання зместу не толькі школьнай, але і пазашкольнай выхаваўчай работы. Але ж вельмі цяжка прыжываецца родная мова, да прыкладу, у летніках. Своеасаблівай падказкай для тых, хто дбае пра паўсюднае адраджэнне беларускай мовы на роднай зямлі, будуць матэрыялы часопіса ў раздзеле «Калі закончыўся ўрок». Тут расказваецца пра вопыт арганізацыі беларускамоўнага летніка «Грунвальд», змешчаны пачатак цікавай распрацоўкі «Да вытокаў роднага слова: літаратурная экскурсія ў прыроду».

Раздзел «На ростанях» адкрываецца публікацыяй Уладзіміра Содаля «Пуцявінамі Купалы» — да 110-годдзя з дня нараджэння Песняра. Аўтар апісвае ў ім тыя мясціны на Меншчыне, свае ўражанні ад сустрэч з тымі людзьмі, якія памятаюць маладога Купалу. Да 50-годдзя з дня нараджэння навукоўца Міхася Ткачова друкуецца гістарычны нарыс юбіляра «Усяслаў Чарадзей». У публікацыі «З наднямонскіх крыніц маёй песні вытокі...» апавядаецца пра літаратурныя імёны Зельвеншчыны.

Часопіс змяшчае і іншыя матэрыялы, у тым ліку працяг «Календара юбілейных дат і памятных дзён» на бягучы год.

Агляд падрыхтаваў
**Іван ЖДАНОВІЧ.**

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—14).*

Няправільна ўсё ж такі аддзяляць людзей ад зямлі: захацеў чалавек далучыцца — хай робіць. Дайце яму кавалачак — колькі здужае,— і хай вырабляе, што хоча,— кветкі, бульбачку, і прадае дзяржаве... А жывёліна... яна ж і ласку любіць, і каб пагаварыў з ёй чалавек на сваёй мове... Гэта ж не аўтамат нейкі, які толькі «дае прадукцыю»...

...А вёска наша ўсё ж такі гаворыць на мове!.. Ёсць, праўда, несумяшчальнасць беларускай мовы з урбанізацыяй і механізацыяй вёскі.

**(Беларус, рабочы і калгаснік, крыху настаўнічаў, некалькі гадоў жыў за межамі Беларусі)**

Мова заўсёды была і ёсць катэгорыя патрыятычная.

Наша мова пры яе арыгінальнасці і самабытнасці рэч даволі ўнікальная. Яна — продак усіх славянскіх моў, таму і зразумелая ўсяму славянскаму свету. Зразумела яна і кожнаму чалавеку, які размаўляе па-руску. І гэтым трэба ганарыцца!

Чалавецтва яшчэ не пазбавілася шмат якіх заганаў,

***Алег БЕМБЕЛЬ***

# З «падпольнай» кнігі

Гэта сапраўды адрыў ад каранёў... Як толькі механізатар вывучыцца, ён ужо прыязджае дадому і стараецца гаварыць па-руску... Атрымліваецца антыномія паміж урбанізацыяй вёскі і традыцыямі беларускай культуры... А выйсце простае: выкладаць бы гэтым механізатарам беларускую літаратуру, фальклор... і прадметы на мове. Вось і ўсё...

Літаратараў нашых папракаюць, што яны не засвоілі індустрыяльную тэму. Ёсць у нас «індустрыяльныя творы». Там ёсць індустрыялізацыя, але няма літаратуры. Адразу адчуваецца фальш. Каб пісаць праўду, трэба ўводзіць адпаведную мову... Каб там працэсы адбываліся на мове і каб яны вылучылі са свайго асяроддзя пісьменнікаў — вось тады была б літаратура!..

А памрэ вёска — знікнуць і беларускія пісьменнікі. Бо пакуль што вёска, якая «памірае», усё ж такі дае нам пісьменнікаў і паэтаў...

Карані гэтыя можна перасадзіць і ў горад. Але гэта занадта складаны працэс... Калі б пра гэта думалі, пачынаючы з 20-х гадоў,— о!.. якія дубровы ўжо шумелі б у гарадах нашых...

А пра знішчэнне каранёў нашай мовы можна сказаць і больш. Калі настаўнік прыходзіць у беларускую вясковую школу — усе дзеткі гавораць на мове і нават з дыялектамі. А настаўнік — на рускай. І падаўляе іх сваім аўтарытэтам. І дзіцянё пачынае лапатаць на дрэннай рускай мове: словы рускія, вымаўленне беларускае. І ўсё яго першароднае моўнае багацце разбураецца...

Можна сказаць: школа знішчае беларускую мову. Не было б школы — яна б квітнела яшчэ доўга!..— як гэта ні парадаксальна...

**(Беларус, 41 год, адзінаццаць з іх аддаў журналістыцы, да гэтага ж быў сярод іх нямала злачынных, антычалавечых, якія забіраюць у народаў свету аграмадныя матэрыяльныя, духоўныя і фізічныя рэсурсы (войны, п'янства, курэнне, хцівасць, крывадушша, марнатраўства, маральная і грамадзянская спустошанасць). І з імі перш за ўсё трэба змагацца грамадству.**

Родная мова ж — душа чалавека. Яна ўзвышае яго асобу, робіць яе высакароднай. Дык навошта высакародную з'яву кідаць пад ногі?!

Глыбока веру, што наша мова не будзе кінута на знішчэнне ні самім народам, ні нейкімі звышсіламі. Яна частка прыроды. Яна сутнасць нашай псіхікі, душы. Без яе мы, як казаў Багушэвіч, нямыя калекі. Ва ўсякім разе, на сучасным этапе развіцця грамадства і ўсяго чалавецтва.

* * *

Кажуць, што беларускую моўную пазіцыю паслабляе тая акалічнасць, што беларуская і руская мовы роднасныя, блізкія... Але ж блізкая, роднасная беларускай мове і ўкраінская. А гэтай з'явы з боку ўкраінскай мовы не назіраецца. Значыць, да роднасці дадаецца і яшчэ штосьці.

**(Паміж 20 і 30, беларуска, супрацоўніца мінскай культурнай установы)**

...Мова эліты?.. Гэта — толькі як пераход да нечага больш устойлівага. Бо калі толькі эліта — мова не захаваецца...

...Калі знікне вёска — што можа быць тады з мовай?..

...Зараз свядома захоўвае мову эліта... Павінна быць асяроддзе для існавання мовы, штодзённае... плынь такая... Ці будзе яна?.. Цяжка сказаць цяпер... Калі змогла гэтая эліта стварыць такое асяроддзе — тады нешта будзе...

*(Працяг будзе).*

# Часопісу „Вясёлка" — 35!

***«У маленькіх чытачоў нашай рэспублікі ёсць верны і надзейны сябар — часопіс «Вясёлка», орган ЦК ЛКСМ Беларусі і Беларускага дзіцячага фонду. Трыццаць пяць гадоў, а ён выдаецца з красавіка 1957 года, радуе дзяцей цікавымі казкамі, вершамі, апавяданнямі, прыгожымі яркімі малюнкамі» — так гаворыць пра часопіс у невялічкай нататцы «Шчаслівыя фарбы маленства», якая змешчана з нагоды юбілею «Вясёлкі» ў календары «Родны край, 1992», адказны сакратар часопіса Тамара Тарасава. Пакуль рыхтаваўся каляндар да друку, пакуль прыйшоў юбілейны для «Вясёлкі» красавік — не стала ЦК ЛКСМ Беларусі, ды і сам часопіс за апошнія дзевяць месяцаў з'явіўся ў кіёсках толькі два разы.***

***Колькі змагаліся і змагаюцца супрацоўнікі «Вясёлкі» на чале з яе галоўным рэдактарам Уладзімірам Ліпскім за тое, каб дзіцячы часопіс выдаваўся, але, як бачыце, іх не вельмі чуюць людзі, ад якіх залежыць далейшае існаванне гэтага выдання.***

***Часопісу «Вясёлка» — 35! На жаль, юбілей атрымаўся сумным, як і не вельмі вясёлае дзяцінства яго чытачоў. Але хочацца верыць, што ўсё дрэннае — гэта часовае, і прыйдзе дзень, калі дарослыя дзядзькі, што займаюць высокія пасады і час ад часу гавораць пра адраджэнне беларускай культуры, успомняць пра дзяцей, якія нават у «часы зліцця нацый» мелі свой часопіс на беларускай мове з такой прыгожай і вясновай назвай — «Вясёлка».***

*Сяргей НОВІК-ПЯЮН*

### Камары



Ад зары  
І да зары  
Над ракою  
Камары  
У дуду сваю  
Гудуць  
Ды у ступе  
Мак таўкуць.

Заўтра будзе  
Добры дзень —  
Ані хмарачкі  
Нідзе!  
Нездарма ж яны  
Гудуць  
Ды у ступе  
Мак таўкуць.

***

*Уладзімір КАРЫЗНА*

### Ходзіць коцік

**(Калыханка)**



Ходзіць з торбай коцік —  
Беленькі жывоцік,

Ходзіць, мурлыкае,  
Што торба завялікая.

А я торбу развяжу  
І, што ў торбе, пагляжу.

А ў торбе — сон, сон!  
Як жа мне патрэбен ён.

Бо не спіць сыночак,  
Звоніць, як званочак.

Коцік мой міленькі,  
Дай мне сну дзве жменькі,

Каб заснулі зоркі,  
І лясы, і ўзгоркі,

Рэчкі і крынічкі,  
Сын мой невялічкі...

***

*Васіль ЖУКОВІЧ*

### Змей папяровы



Да нітачкі танюткай  
прывязаны мой змей,  
яго падхопіць хутка  
вясёлы ветравей.

Ляціць ён, узлятае  
вышэй, вышэй, вышэй,  
аблокі ён вітае,  
мой папяровы змей.

Ой, вырваў нечакана  
вятрыска нітку з рук!  
Ляціць у свет нязнаны  
цудоўны мой сябрук.

Над роднаю старонкай  
гуляе ветравей.  
Не бойцеся, жаўронкі:  
ляціць мой добры змей.

*Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ*



* * *

Чапля чорная ўначы  
Дзюбу чысціла ў руччы.  
— Чорных чапляў не бывае!  
— А ты слухай і маўчы!  
Бо навокал крумкачы  
Заспявалі: чы-чы-чы!  
— Крумкачы так не спяваюць!  
— А ты слухай і маўчы!  
А мурзатыя квачы  
Зайкам мазалі лычы!  
— Дык зайцы ж лычоў не маюць!  
— А ты слухай і маўчы!

***

*Віктар ГАРДЗЕЙ*

### Зайчыкавы ноты



У музычнай школе  
Зайчык дзень прабыў.  
— До-Рэ-Мі — фасоля! —  
Ноты ён вучыў.

Потым ля загона  
Рваў струкі за трох  
І спяваў натхнёна:  
— До-Рэ-Мі — гарох!

# Адраджэнне роднага слова

Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Ленінскага раёна г. Менска выступіла ініцыятарам правядзення конкурсу роднага слова «Адраджэнне». Ролю выканаўцаў на сябе ўзялі раённы аддзел народнай адукацыі, калектывы школ. Умовы конкурсу былі распрацаваны яшчэ ў верасні мінулага года і ў кастрычніку раздадзены па школах. Пэўны час адводзіўся на падрыхтоўку. Папярэдне конкурс «Адраджэнне» прайшоў у школах сярод вучняў і настаўнікаў, дзе вызначыліся пераможцы. А яны ўжо рыхтаваліся да ўдзелу ў раённых конкурсах, якія мелі адбыцца ў сакавіку і красавіку.

20 сакавіка ў сярэдняй школе № 29 прайшоў раённы конкурс «Адраджэнне» сярод вучняў 1—4 класаў 22 школ г. Менска. Яго спонсарам быў гарадскі бацькоўскі камітэт.

Надзвычай цікава было арганізавана гэтае свята. І ўпрыгожаная ў нацыянальным стылі зала, і нацыянальныя беларускія касцюмы ўдзельнікаў, і беларускія народныя песні, што гучалі ў выкананні фальклорных калектываў школ,— усё разам нагадвала пра тое, што свята сапраўды беларускае. Вядучыя, настаўніцы пачатковых класаў СШ № 29 Сяргун Наталля Уладзіміраўна і Паўлава Вольга Анатольеўна, прыклалі шмат намаганняў, каб конкурс адраджэння роднага слова надоўга запомніўся ўсім прысутным. Удзельнікі паказалі глыбокія веды па беларускай мове і літаратуры, навыкі мастацкага перакладу, кемлівасць і спрытнасць.

Напрыканцы свята журы на чале з Тамарай Мікалаеўнай Губкінай, намеснікам загадчыка Ленінскага райана, падвяло вынікі конкурсу «Адраджэнне». Каманда СШ № 152 заняла першае месца, другое падзялілі паміж сабой СШ №№ 40, 47, 102, 123, трэцяе — каманда СШ № 2. Усе каманды-пераможцы ўзнагароджаны ганаровымі граматамі, а кожны ўдзельнік конкурсу атрымаў у падарунак цікавую кнігу беларускага пісьменніка.

Арганізоўваючы конкурс «Адраджэнне», шмат папрацавaў калектыў настаўнікаў пачатковых класаў сярэдняй школы № 29, а таксама іх завуч Федзянкова Марыя Лук'янаўна.

У красавіку мае адбыцца раённы конкурс «Адраджэнне» сярод вучняў 9—11 класаў і сярод настаўнікаў усіх школ Ленінскага раёна г. Менска.

**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# ВІС

***У Баранавічах з'явілася новая газета «Товарищ», якую выдае баранавіцкая арганізацыя Партыі камуністаў Беларусі. Як сказана ў першым нумары газеты, выходзіць яна будзе па меры назапашвання матэрыялаў. Сёння, калі ледзь не закрываюцца раённыя газеты, а шмат якія рэспубліканскія паменшылі сваю перыядычнасць, для аднавіўшай сваю дзейнасць камуністычнай арганізацыі няма аніякіх праблем. Для іх ёсць і папера, і грошы, і друкарні.***

Эдвард ХОК

# НЕМАГЧЫМАЕ «НЕМАГЧЫМАЕ ЗАБОЙСТВА»

*Эдвард Хок (н. 1930) — адзін з вядомых амерыканскіх аўтараў дэтэктыўнага жанру. Ён з'яўляецца таксама ўкладальнікам шматлікіх зборнікаў «Лепшы дэтэктыў года. Кароткія апавяданні». Пісаць пачаў на пачатку сямідзесятых гадоў і адразу ж заваяваў папулярнасць. Любімая форма Хока — кароткае апавяданне. Любімы сюжэт — «забойства ў зачыненым пакоі», што дае яму цудоўную магчымасць апісаць псіхалагічны бок драмы і прывесці чытача да зусім неверагоднай высновы, якую ён пацвярджае простымі развaжаннямі.*

Я не дэтэктыў. Шчыра кажучы, большую частку часу я «снежны чалавек». Я пераадольваю двухметровыя гурбы і 70-мільныя вятры, якія амаль дзевяць месяцаў дзьмуць у паўночнай Канадзе за лініяй вечнай мерзлаты. Але калі ты жывеш сам-насам з яшчэ адным чалавекам за 200 міль ад бліжэйшага паселішча і аднойчы знаходзіш гэтага чалавека забітым... ну, дык гэтага дастаткова, каб зрабіць дэтэктывам любога.

Яго звалі Чарлз Фулер, а маё імя Хэнры Баўфорт. Чарлі быў прафесарам у Бостанскім універсітэце, калі я пазнаёміўся з ім. Ён выкладаў курс геалогіі і працаваў над праблемай уздзеяння вечнай мерзлаты на якасць мінералаў. Я працаваў асістэнтам у яго аддзеле. Мы хутка пасябравалі, хоць, можа, гэтаму паспрыяла тое, што я толькі што ажаніўся з яркай бландзінкай Грэйс, якую ён тут жа прыкмеціў. Жонка Чарлі кінула яго гадоў дзесяць назад і знікла недзе ў Паўднёвай Каліфорніі, таму цяпер ён быў у тым стане, калі прысутнасць любой прыгожай жанчыны рабіла яго Дон Жуанам. Мы часта вячэралі ўтрох, і хутка сяброўства пайшло па вельмі пэўнаму накірунку. Фулеру было каля сарака, ён быў гадоў на дзесяць старэйшы за нас з Грэйс і, колькі мы ведалі яго, амаль увесь час гаварыў пра сваю мару.

— Пакуль я яшчэ не стары,— гаварыў ён,— я хацеў бы правесці год за лініяй вечнай мерзлаты.

Ягоная мара збылася раней, чым мы маглі ўявіць, і аднойчы ён абвясціў, што паедзе на доследны пункт у паўночнай Канадзе, ля заходняга берага заліва Хутзана.

— Я заплаціў грошы за восем месяцаў даследаванняў,— сказаў ён.— Гэта цудоўная магчымасць. У мяне больш такога шанцу не будзе.

— Вы паедзеце туды адзін? — спыталася Грэйс.

— Шчыра кажучы, я спадзяваўся, што пераканаю вашага мужа паехаць са мной.

Я быў вельмі здзіўлены.

— Восем месяцаў у мясціне, дзе няма нічога, акрамя снегу?

Чарлі Фулер усміхнуўся.

— Нічога, акрамя снегу. Як наконт гэтага, Грэйс? Ты можаш аддаць яго на восем месяцаў?

— Калі ён захоча паехаць,— згадзілася яна. Грэйс старалася ніколі не перашкаджаць таму, што хацеў рабіць я.

Мы доўга гаварылі пра гэта ўвечары, але я адразу ж рашыў, што паеду. І я паехаў у паўночную Канаду з Чарлі Фулерам.

Хаціна,— калі мы дабраліся да яе на самалёце, лодцы і снегаходзе,— аказалася надзіва камфортнай. Ежы там было на год. Мы мелі радыёстанцыю для сувязі са светам, неабходныя лекі і шафу з кнігамі. Усё было забяспечана арганізацыяй, якая фінансавала даследаванні. Хаціна мела тры вялікія пакоі: лабараторыю для даследаванняў, нешта сярэдняе паміж залай і кухняй, а таксама спальню, у кутку якой была маленькая ванна. Мы прывезлі сваю вопратку, а Фулер яшчэ прыхапіў стрэльбу, каб адганяць дзікіх звяроў. У нас былі ўсе выгоды, і мы збіраліся правесці тут доўгую зіму.

Спачатку дзённая завядзёнка была вельмі цікавая. Чарлі Фулер быў, безумоўна, самым адданым і разумным вучоным, якога я ведаў. Мы ўставалі на досвітку, разам снедалі і ішлі шукаць узоры руды. Мы выявілі месцы, дзе няспынныя вятры адпаліравалі голую скалу і дзе зямля была ахавана глыбокай коўдрай снегу. А найлепшым у гэтыя першыя дні была няспынная сувязь па радыё з Грэйс. Яе амаль штовячэрнія весткі, хаця іх было дрэнна чуваць, неслі на паўночна-заходнюю тэрыторыю цеплыню Бостана.

Але потым весткі ад Грэйс пачалі прыходзіць раз ці два на тыдзень, а пасля раз у два тыдні. Фулер і я пачалі дзейнічаць адзін аднаму на нервы, і часта раніцай я прачынаўся ад гуку стрэлаў. Чарлі стаяў у дзвярах і страляў у паўночных соў ці земляных вавёрак. У нас быў снегаход, але бліжэйшае паселішча — у 200 мілях, і на выхадныя туды не з'ездзіш.

Аднойчы за вячэрай, якая зрабілася вельмі нудным мерапрыемствам, Фулер сказаў:

— Закладаюся, што ты сумуеш па ёй. Га, Хэнк?

— Па Грэйс? Вядома, сумую. Мы тут ужо доўгі час.

— Думаеш, па вечарах яна сядзіць дома і чакае нас... цябе?

Я паклаў відэлец.

— Што ты хочаш сказаць, Чарлі?

— Нічога... зусім нічога.

Але вечар прайшоў вельмі сумна. Мы правялі разам амаль пяць месяцаў, і гэтага было ўжо замнога.

Мы сустрэлі і праводзілі Каляды, а зіма ўсё яшчэ скуголіла на вуліцы з раніцы да ночы. Калі маглі, мы прадзіраліся праз снег у пошуках узораў, а самыя дрэнныя дні праводзілі разам у маленькай лабараторыі.

Фантастычна і неверагодна, але тут — за 200 міль ад бліжэйшага паселішча — паміж намі пачалося саперніцтва за маю жонку. Ціхае саперніцтва, саперніцтва за жанчыну, якая знаходзілася за 2000 міль адсюль, але гэта было сапраўднае, жорсткае саперніцтва.

— Як ты думаеш, што яна цяпер робіць, Хэнк?

Ці:

— Я б хацеў, каб Грэйс была тут. Яна б трошкі сагрэла гэтую мясціну. Га, Хэнк?

Урэшце, аднойчы вечарам у студзені, калі завіруха затрымала нас у хаціне на два доўгія дні, саперніцтва выплеснулася вонкі. Чарлі сядзеў за грубым драўляным сталом, а я ў сваім звычайным крэсле і глядзеў у акно.

— Мы губляем шмат цяпла,— заўважыў я.— Паглядзі на гэтыя чортавы ледзяшы.

— Я потым выйду і пазбіваю іх,— адказаў ён. Я бачыў, што ён у дрэнным настроі, і падазраваў, што ён піў віскі.

— Мы маглі б лепш ставіцца адзін да аднаго,— сказаў я.— Нам тут яшчэ некалькі месяцаў сядзець.

— Турбуешся, Хэнк? Хочаш хутчэй апынуцца ў ложку са сваёй сексапільнай жонкай?

— Давай не будзем кранаць Грэйс. Мяне ўжо нудзіць ад гэтага.

— Як дрэнна! — ён устаў і пайшоў у лабараторыю. Праз хвіліну я пайшоў за ім і ўбачыў, што ён абапіраецца аб шафу і тупа глядзіць у падлогу.

— Пакінь мяне аднаго,— сказаў ён.

— Табе дрэнна?

— Але. Мяне нудзіць ад гэтае мясціны, ад цябе!

— Тады давай вернемся.

— Не. Не, я не магу кінуць гэтыя даследаванні.

— Але чаму? Няўжо яны вартыя штодзённай пакуты?

— Ты не разумееш,— ён павярнуўся да мяне. Дзіўна, але мне падалося, што злосць пакінула яго. Замест яе прыйшоў адчай.— Я пачынаў у навуцы не геолагам. Я спецыялізаваўся ў біялогіі, і ў мяне былі вялікія планы зрабіцца даследчыкам у якой-небудзь вядомай фармацэўтычнай фірме. Яны добра плацяць.

— Што ж здарылася?

Ён абапёрся аб сцяну.

— Самае страшнае, Хэнк. Я не мог працаваць з жывёлінамі. Не мог праводзіць з імі эксперыменты, забіваць іх. Я думаю, што не змагу забіць нічога жывога.

— А птушкі і жывёліны, у якіх ты страляеш?

— У гэтым уся справа, Хэнк. Я ніколі не трапляю! Спрабую, але наўмысна мажу. Таму я і пайшоў у геалогію — камяні, глеба. Гэта было адзінай бяспечнай рэччу, адзінай навукай, дзе я не выглядаў ідыётам.

— Ты і не будзеш выглядаць ідыётам, Чарлі. Нават калі мы спынім даследаванні і вернемся сёння ж, цябе прымуць ва універсітэце. Ты маеш там прафесарскую пасаду.

— Мне трэба ў чым-небудзь дасягнуць поспеху, Хэнк,— ён правёў рукоў па сівеючых валасах.— Няўжо ты не разумееш?

Ён болей не гаварыў пра Грэйс, але я думаў, што на ўвазе ён меў не толькі працу. Няўжо ён хацеў сказаць мне, што мусіў дасягнуць поспеху з Грэйс?

* * *

Ноччу я спаў дрэнна. Па-першае, Чарлі апоўначы вырашыў збіваць ледзяшы, а потым таму, што вецер змяніў напрамак і пачаў выццё ў коміне. Калі Чарлі лёг, я ўстаў, каб паглядзець на вуліцу, але акно замерзла. З-за марозных узораў нічога не было бачна. Пад раніцу я праваліўся ў трывожны сон, які перапыняўся птушынымі спевамі. Завіруха скончылася. Надвор'е мусіла быць ціхім і сонечным, хоць моцны холад мог пратрымацца шмат дзён. Я чуў, як Чарлі хадзіў, гатаваў сняданак. Я стараўся не звяртаць на гэта ўвагі: вельмі хацелася спаць. Упаў лядзяш і грымнуў па сцяне хаціны. Крыху пазней я раптам прачнуўся ад таго, што нешта пачуў. Стрэл! Няўжо Чарлі зноў пайшоў на вуліцу страляць? Я паляжаў у ложку, чакаючы наступнага стрэлу, але не чуў нічога, акрамя шуму кававаркі на газавай пліце. Нарэшце, устаў і выйшаў са спальні. Чарлі Фулер сядзеў у маім крэсле за пустым сталом і глядзеў у сцяну. Танюсенькі ручаёк крыві сцякаў з ілба ў вока. Ён быў мёртвы. Я адно праз некалькі секунд усвядоміў, што ён сапраўды мёртвы. Нават убачыўшы рану на ілбе, я адмаўляўся верыць гэтаму. Спачатку я падумаў, што гэта самазабойства, але паглядзеў навокал і зразумеў: самазабойства было немагчымым. Куля забіла яго імгненна, а зброі побач не было. Я агледзеў кожны дзюйм пакоя, нават столь. Нідзе ніякай зброі. Стрэльбы Фулера, якая заўсёды вісела ў кутку ля дзвярэй, таксама не было. Але калі не самазабойства, тады што?

Я ўключыў рацыю, паведаміў пра здарэнне і сказаў, што прывязу цела, як толькі змагу. Наша экспедыцыя за лінію вечнай мерзлаты скончылася.

Потым я збіраў свае рэчы і ўспомніў пра каву. Я выключыў пліту, калі аглядаў пакой, і нават выпіў трошкі кавы. Ці гатуюць сняданак людзі, якія збіраюцца скончыць самагубствам? Ці вараць яны каву? І тут я ўсё зразумеў. Чарлі Фулер не канчаў самагубствам. Я сядзеў насупраць цела, потым устаў, накрыў яго коўдрай, зноў сеў.

Якія былі варыянты? Самазабойства, трагічны выпадак, забойства — усё вельмі проста. Не самазабойства. Не трагічны выпадак: ён, безумоўна, не чысціў сваю стрэльбу.

Заставалася толькі адна магчымасць. Забойства. Я ці нехта яшчэ — толькі два варыянты. Я Чарлі не забіваў. Нават у сне. Я ўстаў пасля таго, як пачуў стрэл, а дагэтуль быў у ложку. Я падышоў да цела і схіліўся над крэслам, каб паглядзець на тое, што бачыў ён у свой апошні момант. І я ўбачыў. Проста насупраць, у цэнтры замёрзлага акна была маленькая дзірачка, якую я не заўважыў раней: марозныя ўзоры замаскіравалі яе. Ад дзірачкі беглі расколіны, але мароз не дазваляў шклу разляцецца. Адкрыццё палепшыла мой настрой. Куля прыляцела звонку — таямніца была раскрыта!

Але на вуліцы я зразумеў, што на месцы гэтай таямніцы ўзнікла яшчэ большая. Навокал узвышаліся сумёты вышэй за мяне. Нават снегаход быў засыпаны снегам. Ніхто не мог прайсці да хаціны праз гэты снег. Прынамсі, ён пакінуў бы сляды.

Я прайшоў праз ледзяшы, што ляжалі на зямлі,— некаторыя з іх былі таўшчынёю з маю руку,— да акна. Снегу пад ім было даволі многа, але я адразу ж убачыў прыклад стрэльбы Фулера ў сумёце. Я выцягнуў яе і разглядаў так, быццам яна магла нешта расказаць мне. З яе нядаўна стралялі: яна была прыладай забойства, але больш я нічога не ведаў.

Я прынёс яе ў хаціну і сеў. Нас было толькі двое, і нехта забіў Чарлі Фулера. Гэта значна змяншала колькасць падазроных.

* * *

Як толькі з'явілася сонца, я вырашыў, што хутка паеду. Але ў мяне была яшчэ адна задача: Чарлі Фулер быў мёртвы, і я мусіў дазнацца, як усё здарылася.

Я хадзіў па хаціне. Агледзеў пустую лабараторыю. Я ведаў, што адказ знаходзіцца недзе тут, у нашым часовым доме. Вярнуўся да нашай размовы пра Грэйс. Ён кахаў Грэйс, жадаў яе — у гэтым сумнення не было. Ці мог ён скончыць самагубствам так, каб мяне абвінавацілі ў яго забойстве? Не, супраць гэтай тэорыі былі дзве рэчы: гэта не дало б яму Грэйс, а мяне не абвінавацілі б у злачынстве. Я быў сам-насам з усімі доказамі, мог змяніць усё, як пажадаю, прыдумаць любую гісторыю. Сто супраць аднаго, што паліцыя не паедзе сюды, каб праверыць маю версію. У сеансе па радыё я ўжо паведаміў пра самазабойства, але мог памяняць гэта на трагічны выпадак.

Я выйшаў на вуліцу і пачаў капацца ў снезе там, дзе знайшоў стрэльбу. Але там нічога не было, адно некалькі кавалачкаў ледзяша. То там то тут былі сляды Фулера: ён збіваў ледзяшы з даху, але іншых слядоў не было. Калі хтосьці стаяў ля гэтага акна, каб забіць Чарлі Фулера...

Але ніхто не мог тут стаяць! Я глядзеў на акно са здзіўленнем, што расло з кожнай секундай. Акно было зусім замёрзлае, як я заўважыў яшчэ ноччу. Нават калі нябачны забойца ўпаў з неба і неяк выцягнуў з хаціны стрэльбу Чарлі, ён не мог бы забіць яго праз гэта акно. Ён бы проста не ўбачыў яго!

Ну, і якая мне з гэтага карысць?

Я пайшоў назад, узяў стрэльбу, разрадзіў яе і націснуў курок. Ён быў вельмі адчувальны: як толькі я да яго дакрануўся, пачуўся шчоўк. Раптам я адчуў, што зараз знайду адказ. Я стаяў і глядзеў на цела пад коўдрай у крэсле. Потым выйшаў і паглядзеў на яго праз кулявую адтуліну ў акне. І тут я зразумеў, хто забіў Чарлі Фулера.

* * *

Я глядзеў на цела ў крэсле, але гэта было МАЁ крэсла! Праз дваццаць хвілін ці паўгадзіны я сядзеў бы ў гэтым крэсле за сняданкам. Чарлі паклікаў бы мяне, калі б зварылася кава, і я сеў бы ў гэтае крэсла, як садзіўся кожную раніцу.

І Чарлі Фулер забіў бы мяне.

Я патраціў яшчэ пяць хвілін, разгроб кавалкі ледзяшоў пад акном і знайшоў нешта большае, чым проста лёд. Гэта быў лёд у маленькім пласцікавым пакеціку. Мы карысталіся такімі пакецікамі ў лабараторыі для ўзораў камянёў. Гэты ж паслужыў для іншай мэты.

Чарлі замацаваў стрэльбу у снезе на ледзяшы. Можа, прымарозіў стрэльбу да яго. Потым накіраваў рулю так, каб яна глядзела на верх крэсла, дзе буду сядзець я. Паклаў пакецік з вадой паміж курком і засцерагальнікам. Калі вада ў пакеціку замерзла, лёд націснуў курок і стрэльба стрэліла праз акно. Аддача адкінула стрэльбу ад ледзяша, а пакецік з ільдом упаў у снег.

Дык што ж не спрацавала? Чарлі Фулер разлічыў час замярзання вады ў пакеціку, але не зрабіў папраўку на халодны вецер. Вада замерзла раней, чым ён планаваў,— а ён у гэты момант сядзеў у маім крэсле, правяраў, каб яно стаяла, як трэба.

Але чаму ён зрабіў усё так складана? Мы ж былі адны. Я думаў пра гэта на шляху да Карыбу. Ён, мусіць, баяўся, што гэта будзе, як з тымі жывёлінамі, пра якіх ён мне расказаў. У апошні момант ён не зможа націснуць курок. Можа, ён стаяў ля мяне ўначы са стрэльбай у руках і не мог гэта зрабіць? А так ніякага асабістага ўдзелу. Гэта было падобна на лабараторны эксперымент: сядзі і назірай.

Такім чынам, Чарлі Фулер забіў сябе. Але для ўлад і для Грэйс я вырашыў прытрымлівацца версіі няшчаснага выпадку. Паліцыя будзе мець маю гісторыю, а я хацеў зрабіць яе як мага прасцей. Як я ўжо казаў, я не дэтэктыў.

З англійскай мовы пераклаў
Алесь КУДРАЎЦАЎ.




# АДРАДЖАЮЧЫ МІНУЛАЕ

У рэспубліканскай мастацкай галерэі адбылася незвычайная выстава — «Беларуская выцінанка».

У гісторыі культуры Беларусі ёсць забытыя віды народнага мастацтва, якія ў свой час перажылі яркі росквіт, але потым амаль зусім зніклі. Сярод іх — узоры, выразаныя з паперы,— выцінанкі. У канцы XIX—пачатку XX стагоддзя папяровыя ўзоры можна было сустрэць амаль у кожным доме. Потым пра іх успомнілі ў пасляваенныя гады, калі ва ўмовах разрухі кожнаму хацелася хоць неяк упрыгожыць свой быт. Хто з людзей старэйшага пакалення не памятае папяровыя выразаныя фіранкі, сурвэткі пад гаршкамі для кветак на сталах і буфетах?

Сёння ўспаміны аб выцінанках захаваліся можа толькі ў традыцыйных папяровых «сняжынках», якія ўпрыгожваюць навагоднія святы.

Разам з тым, некаторыя мастакі і народныя майстры пачалі выкарыстоўваць гэты стыль у сваіх творах.

**На здымках:** 1) адзін з экспанатаў выставы; 2) удзельнікі выставы Таццяна Маркавец (у цэнтры) і Алесь Лось знаёмяць наведвальнікаў з тэхнікай вырабу выцінанак.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ (БелТА).**



# НЕВЫМОЎНАЯ СТРАТА

Асірацела сям'я; збяднеў белы свет; невымоўна цяжкую страту панесла наша гаротная літаратура: не стала Тамары Чабан. Здарылася страшная несправядлівасць: смерць вырвала яе з жыцця ў той час, калі ёй трэба было яшчэ жыць і жыць, каб даглядаць маміну і татаву старасць, жыць, каб гадаваць малога сына і дачушку, якой не споўнілася яшчэ й году, жыць, каб радавацца і засмучацца, кахаць, ахоўваць, шанаваць; жыць, каб ствараць, шчыраваць на карысць роднае беларускае літаратуры, на карысць нацыянальнае культуры.

Тамара Чабан шчодра была адорана талентам, яна з кагорты крытыкаў і даследчыкаў, якія за імем бачаць усю літаратуру, за рэцэнзіяй — увесь, такі няпросты, літаратурны працэс. Яскравы мастацкі і эстэтычны дар, багаты інтэлект, выразная гуманістычная пазіцыя забяспечвалі ёй поспех, чытацкую ўвагу, павагу, сімпатыю. Яе артыкулы ў кнігах, у «ЛіМе», «Маладосці», «Дружбе народов» ды іншых выданнях чыталіся і, веру, будуць чытацца як таленавітыя, заўсёды цікавыя мастацкія творы. У адным з артыкулаў Тамара Чабан узняла праблему беларускага эпасу, акрэсліла перспектыву яго стварэння,— прыклад валодання глыбокім стваральным мысленнем, прыклад бачання адметных задач нацыі.

З мацярынскім подзвігам — яна ў нялёгкі і трывожны час вынасіла пад сэрцам новае жыццё — супаў і творчы подзвіг Тамары Чабан. Змагаючыся з руцінай і рабствам у літаратуры, яна сваім дасканалым словам падтрымлівала ўсё жывое, арыгінальнае, што спрыяла адраджэнню роднай мовы, гісторыі, культуры. Яна ведала драматычны шлях сумленнага літаратара, бачыла Сцылу і Харыбду, засцерагала ад небяспекі, якая пагражае многім. Яна любіла ўсім сэрцам паэзію. І сама ці не паэтычны мела склад характару. На ніве беларускага нацыянальнага Адраджэння яна падымала і несла цяжар па-за межамі сваіх фізічных сіл — памагала тут сіла духу, вернасць духоўнасці. З немаўлём на руках яна, выдатна арыентуючыся ў літаратурным космасе, стварала хвалюючыя артыкулы пра стан сучаснай паэзіі (пераважна паэзіі маладых аўтараў), займалася экалагічнай праблемай, складанай праблемай альтэрнатыўнае школьнае праграмы. У коле такіх клопатаў усё было важнае, неадкладнае, патрабавала фізічных ды інтэлектуальных намаганняў, бяссонных начак.

У варунках пастаянных перагрузак Тамара Чабан заставалася бязмежна добрым, уважлівым чалавекам. Трымала цесную сувязь са школаю, дзе вучыцца яе сынок, ладзіла там святы. Яна клапацілася пра людзей. Ставала ў яе часу, каб пацікавіцца, як пачуваюць сябе сябры, каб павіншаваць каго з добрай публікацыяй, сказаць каму прыемную навіну, а каму прапанаваць узяты загадзя білет на вечарыну.

Ужо цяжка хворая (не забуду таго дня 17 лютага), яна па тэлефоне сказала: «Беражыце сябе». Цяпер балюча мне пры адной думцы, чаму такія словы я ніколі не сказаў ёй. Было адно натуральнае захапленне тым, як яна паспявала многае таленавіта здзяйсняць. Пазней, ужо ў бальніцы, дзе яна ляжала пасля аперацыі, убачыў, як Тамара Чабан і ў крытычным стане захавала лепшыя якасці чалавека. Яна старалася быць суразмоўніцай. Перадольваючы боль, усміхалася, радавалася кветцы, і радасць была непадробная.

Змоўклі вусны. Заплюшчыліся вочы. Спынілася сэрца. Пагасла жыццё. Пагасла дачасна, з чым немагчыма змірыцца. Але засталося і жыць будзе тое, што створана няўрымслівай душою Тамары Чабан, жыць будзе добрая памяць пра яе, жыць будзе светлы вобраз сейбіткі з адраджэнцкае нівы. Хай жа ёй будзе пухам родная беларуская зямелька.

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

## Ахвяраванні ТБМ імя Ф. Скарыны:

1. Сп. Б. Даніловіч (ЗША) — 20 доляраў ЗША.
2. Згуртаванне беларусаў Канады — 15 канадскіх доляраў.
3. Ахвяраванні ТБМ ад беларусаў Вялікабрытаніі — 15 доляраў ЗША і 10 фунтаў стэрлінгаў.
4. Сп. М. Пашкевіч — 102 долары ЗША на матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне курсаў беларускай мовы ў Менску.

Аплата за сувенірныя вырабы ТБМ склала 100 фунтаў стэрлінгаў у лютым г. г.

Шчыры дзякуй!

## У рэдакцыйны фонд «Нашага слова» ахвяравалі:

1. Табола А. І. (Менск) — 100 рублёў;
2. Лысёнак В. Г. (Полацк) — 50 рублёў;
3. Стахоўскі В. І. (Паставы) — 50 рублёў;
4. Алена Шарэпа-Лапіцкая (Менск) — 12 рублёў;
5. Васіль Жуковіч (Менск) — 100 рублёў.




### *Лячэнне мёдам ран, язваў, апёкаў*

Заснавальнік навуковай медыцыны Гіпакрат у працы «Аб ранах», напісанай 2500 гадоў назад, рэкамендаваў лячыць іх мёдам у камбінацыях з цёртымі пялёсткамі баркуну. Пліній жа раіў лячыць раны, што доўга не зажываюць, мёдам у спалучэнні з рыбіным тлушчам. Авіцэна лячыў раны аплікацыямі з мукі і мёду. Старажытныя славяне лячылі раны маззю, у склад якой уваходзіў дзёгаць. У вядомым трактаце «Мазі», напісаным у XII стагоддзі ўнучкай Уладзіміра Манамаха Еўпраксіяй-Дабрадзеяй, шмат месца адведзена лячэнню мёдам розных хвароб, у тым ліку і незагойных ран.

Нямецкі хірург Цэйс у Першую сусветную вайну паспяхова лячыў гнойныя і траўматычныя раны чыстым мёдам, мяняючы павязкі штодзённа, аж да поўнага выздараўлення пацыента. У Другую сусветную вайну лячыў мёдам раненых салдат савецкі хірург Смірноў. Галоўным упраўленнем эвакашпіталяў была нават выдадзена спецыяльная інструкцыя па выкарыстанні пчалінага мёду ў якасці сродку, што ўмацоўвае арганізм і лечыць раны.

У пасляваенны час многія савецкія медыкі дасягнулі выдатных вынікаў пры лячэнні ран мёдам (Я. М. Крыніцкі, А. С. Будай, Е. А. Канькоў, Н. А. Дымовіч і іншыя). Доследы паказалі, што прыкладванне мёду і мядовых мазяў да паверхні раны аказвае антыбактэрыяльнае і супрацьзапаленчае ўздзеянне (знішчаюцца стрэптакокі, стафілакокі і іншыя шкодныя мікробы), што садзейнічае прыліву крыві да хворага месца і адтоку лімфы з наступным ачышчэннем раны ад гною, рэгенерацыяй пашкоджаных тканак і загойваннем. Найлепшыя вынікі дае мёд у спалучэнні з рыбіным тлушчам, багатым на вітамін А.

Найбольш вядомыя ў свеце прэпараты і мазі на мёдзе савецкага вучонага Е. А. Канькова. Імі лечаць незагойныя і агнястрэльныя раны, трафічныя язвы, некрозы і гангрэны, апёкі, гнойныя запаленні пальцаў, іншыя паражэнні скуры.

Методыка выкарыстання прэпаратаў Канькова заключаецца ў накладванні марлевых павязак на раны і апёкі з тым або іншым мядовым прэпаратам. Павязкі мяняюцца праз 2—3 або 4—6 дзён.

Украінскі ўрач А. С. Будай рэкамендаваў наступны рэцэпт для незагойных ран і язваў: пчаліны мёд — 80 г, рыбін тлушч — 20 г, ксераформ — 3 г. Мазь накладваецца на ачышчаныя раны ў выглядзе павязкі. Аўтар таксама выпрабаваў мазь, якая ўтрымлівае толькі мёд і абляпіхавы алей. Гэта лякарства больш эфектыўнае, паколькі рыбін тлушч і ксераформ у многіх людзей выклікаюць алергію.

Для ўзмацнення лекавага эфекту мёду яго можна камбінаваць у мазях з антыбіётыкамі. Хірург М. Райвічэр прапанаваў наступны рэцэпт для лячэння трафічных язваў на нагах: пеніцылін — 500 000 адзінак, навакаін — 2 г, рыбін тлушч — 5 г, мёд — 10 г. Мазь накладваецца на язву і забінтоўваецца. Павязкі мяняюцца праз кожныя 2—3 дні, тэрмін лячэння — 2—3 тыдні.

Хірург А. Е. Гельман у 1946 годзе распачаў лячэнне хворых з незагойнымі ранамі электрафарэзам. Працэдура выклікае хуткае ачышчэнне ад гною і загойванне раны. Лечаць раны таксама інгаляцыямі 10-працэнтнага раствору мёду.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.

Адказны сакратар Анатоль Сілянкоў.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МБПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка»
Наклад 7339 паасобнікаў. Зак. 1173. Індэкс 63865.